ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

№ 3(5185)
Аўторак, 9 студзеня 2001 года

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

Кошт у розніцу — 47 руб.

З чым ідзём да дзяцей?

# Самае высокае месца

## Што ж такое талент настаўніка?

ЗАПОМНІЛАСЯ: у другой палове 80-х гадоў мінулага (цяпер ужо — мінулага!) стагоддзя мне трапіла ў рукі кніга "Свет у 2000 годзе". Я прачытаў у ёй, што галоўнымі сярод глабальных праблем, якімі будзе асабліва заклапочана чалавецтва на парозе тысячагоддзяў, стануць дзве праблемы: як захаваць мір на планеце і як знайсці новыя метады адукацыі і выхавання. Прадбачанне спраўдзілася. Што да пошуку новых метадаў адукацыі і выхавання, то ён за пятнаццаць мінулых гадоў даў пэўны плён, хаця методыка і з'яўляецца найбольш кансерватыўнай складаемай сістэмы навучання і выхавання ў любой краіне свету. Плён гэты праявіўся ў агульнаадукацыйнай школе Беларусі найперш у выкарыстанні навучальных тэхналогій, якія даюць магчымасць не толькі даваць дзіцяці глыбокія і трывалыя веды, але і развіваць яго асобу, дапамагаюць настаўніку вучыць вучня вучыцца і, навучаючы, выхоўваць. А што ж, як не гэта, з'яўляецца сапраўднай эфектыўнасцю навучальна-выхаваўчага працэсу?..

Найбольш яркай адметнасцю развіцця педагагічнай думкі ў нашай краіне за апошнія дзесяць гадоў XX стагоддзя я назваў бы тое, што цяпер у таленавітых педагогаў ужо не ўзнікае жаданне пайсці ў "педагагічнае падполле", таму што настаўнік мае магчымасць раскрыць сябе як асобу у практычнай педагогіцы. Педагагічныя навацыі не спускаюцца "зверху", а распаўсюджваюцца "па гарызанталі" — праз абмен вопытам, адкрытыя ўрокі, семінары і канферэнцыі. Менавіта за апошняе дзесяцігоддзе ў многіх раёнах і гарадах вядучымі сталі так званыя "нетытулаваныя" настаўнікі, якія сціпла, "непрыкметна", але з вялікім майстэрствам робяць сваю справу. Давайце зазірнём на ўрокі такіх сціплых рупліўцаў.

Папрасіўся я неяк на ўрок настаўніцы, якую дырэктар школы назваў узыходзячай зоркай. Яна пагадзілася, але, як мне падалося, мяркуемая мая прысутнасць на занятках крыху занепакоіла яе: не прывыкла яшчэ, што стала "аб'ектам" увагі.

— Хачу паглядзець, як вы будзеце вучыць і выхоўваць дзяцей, — усміхнуўся я.

Але настаўніца не падтрымала мой жартоўны тон. Адказала спакойна-засяроджана:

— Нічога звышнатуральнага вы не ўбачыце. Я проста размаўляю з дзецьмі.

"Проста размаўляю" — так і сказала. "Што ж, — падумаў я, — цікава будзе паназіраць за такой размовай".

Толькі ўладкаваўся на задняй парце, як у клас увайшоў дырэктар і прысеў побач са мной: "У яе ніводзін закаранелы прагульшчык не прапускае ўрокаў", — шапнуў ён мне на вуха, гледзячы на настаўніцу. Увесь ўрок я назіраў за тым, як ішла "проста размова" настаўніцы з класам, за рэакцыяй вучняў, асабліва маіх суседзяў на "камчатцы" на пытанні настаўніцы і доследы, якія яна прапаноўвала выканаць. І што вы думаеце — увесь клас быў захоплены дзеяй, якая адбывалася на ўроку. Калі б не бачыў на ўласныя вочы, то не даў бы веры, што так лёгка можна літаральна зачараваць падлеткаў самым, бадай, складаным школьным прадметам — фізікай.

— Чаму роўна паскарэнне свабоднага падзення? — настаўніца ўважліва глядзіць на клас.

Лаўлю сябе на думцы, што пытанне можна было б задаць і больш складанае. Вучняў яно, як відаць, не "завяло". Адказваюць з месцаў: "Дзевяць цэлых, восем дзесятых".

— І хто вам гэта сказаў? — настаўніца нібыта не пагаджаецца.

Клас замоўк.

— Няўжо мы не тое змарозілі? — здзіўляецца ўслых вучань, які сядзіць перада мной. — У падручніку ж напісана.

На гэты "водгук" настаўніца адказвае так: прапануе групе вучняў правесці некалькі доследаў, каб устанавіць дакладную велічыню паскарэння свабоднага падзення. Я звяртаю ўвагу на тое, што на ўроку актыўна, з цікавасцю працуюць усе вучні. Смела выказваюць свае думкі і меркаванні. Відавочна, што яны не баяцца памыліцца, адказаць неўпапад, што самастойнае практычнае спасціжэнне фізічных законаў ім не здаецца сумным і нецікавым. Падлеткі разважалі, тварылі, адкрывалі для сябе новае — і з такой працаздольнасцю, якую не назавеш "паказальнай", загадзя "арганізаванай" для госця: прысутнасці староннягa чалавека і дырэктара школы, як мне здалося, вучні не заўважалі: такім шчырым, не скаваным быў іх дыялог з настаўніцай і між сабою. А цяпер завітаем на ўрок матэматыкі, які запомніўся мне тым, што на тварах вучняў я не ўбачыў ні суму, ні абыякавасці, ні стомленасці, хаця тэму "лірычнай" таксама не назавеш — вялася размова пра геаметрычныя і трыганаметрычныя функцыі вугла. Апытанне і тлумачэнне праходзіла адначасова. Вучні аналізавалі, разважалі, прапаноўвалі найбольш аптымальныя варыянты. Адказвалі і каля дошкі, і з месца, і нават хорам — уся ўвага класа была сканцэнтравана на вывучаемым матэрыяле. Гэтаму, на мой погляд, спрыяла не толькі актыўнасць і цікаўнасць вучняў, але і да дэталяў прадуманая настаўніцай арганізацыя ўрока: пытанні, заданні, наглядныя дапаможнікі. Падвядзенне вынікаў заняткаў паказала, што падлеткі задаволены: яны даведаліся пра новае, невядомае ім дагэтуль, навучыліся таму, чаго не ведалі. З іх адказаў і выказванняў я зрабіў выснову, што настаўніцы ўдалося стварыць атмасферу радасці разумовай працы — радасці мысліць, рухацца наперад у "зоне бліжэйшага развіцця".

У адной школе мяне запрасілі на вечарыну, якой завяршалася дэкада рускай літаратуры. І дагэтуль успамінаюцца авацыі, якімі зала — яблыку не было дзе ўпасці — узнагародзіла ўдзельнікаў спектакля па творах Мікалая Гогаля. Авацыі заслужаныя, бо юныя самадзейныя акцёры вельмі ўдала сыгралі ўрыўкі з "Рэвізора" і "Мёртвых душ". Да завяршэння дэкады вучні падрыхтавалі не толькі спектакль, але і "Сарочынскі кірмаш", выставу малюнкаў па творчасці Гогаля і выставу насценгазет. Твар настаўніцы рускай літаратуры ажно свяціўся ад радасці, калі яна расказвала мне пра вучнеўскія работы. Пабыўшы да гэтага на ўроку літаратуры, я, шчыра кажучы, пазайздросціў вучням, якія вучацца ў такой настаўніцы: далёка не кожны настаўнік ахвяруе свой час на арганізацыю пазакласнай работы па прадмету, разважаючы прыкладна так: "Я даю трывалыя веды на ўроках. Гэтага дастаткова". Дастаткова? Гледзячы для каго. Настаўнікі-энтузіясты, з якімі мне даводзілася сустракацца ў школах, не ашчаджваюць сябе, як правіла, ад "лішніх" клопатаў. Чаму? Няпроста адказаць на гэта пытанне. Як няпроста бывае выказаць словамі тое светлае, што ідзе з чалавечага сэрца...

З ЧАГО пачынаецца таленавітасць настаўніка? З дасканалага ведання выкладаемага прадмета? З грунтоўнай метадычнай падрыхтоўкі? Так, без глыбокіх спецыяльных ведаў і прафесійнага майстэрства ў школе няма чаго рабіць. Але ж, пагадзіцеся, хіба нямала бывае выпадкаў, калі, здавалася б, вельмі кваліфікаваны настаўнік адчувае сябе ў дзіцячым асяроддзі "чужаком" і не можа дасягнуць жаданай эфектыўнасці сваёй працы? Чым гэта вытлумачыць? Напэўна, найперш тым, што метадычная падрыхтаванасць не заўсёды спалучаецца з непадробнай цікавасцю да свайго прадмета, з безумоўнай любоўю да дзяцей, творчай захопленасцю педагогікай і з арганізатарскімі здольнасцямі. Гэта ж той асялок, на якім і выпрацоўваюцца такія прафесійныя якасці настаўніка, як педагагічнае прадбачанне, здольнасць апераджаць педагагічную сітуацыю, а таксама ўменне вывучаць і выдзяляць індывідуальныя здольнасці і схільнасці вучняў. А калі няма такіх якасцей,то хіба з'явяцца, скажыце, навыкі самааналізу і аб'ектыўнай, адэкватнай самаацэнкі? Той самаацэнкі, якая і развівае здольнасць да пастаяннага ўдасканалення сваёй педагагічнай дзейнасці? Хто, скажыце, ідучы штодзень у клас, не разважае над тым, як зрабіць свае ўрокі цікавымі для дзяцей? Хто не марыць пра тое, каб улюбіць вучняў у свой прадмет? Аднак гэта ўдаецца не ўсім. Чаму? Адна з прычын навідавоку — капіраванне старых, "саржавелых" методык, якія даўно прывычныя і таму здаюцца надзейнымі, праверанымі часам. Але як ні спрабуй на аснове гэтых методык "па-сучаснаму" скамбінаваць вучэбную дзейнасць вучняў на ўроку, ад камбінацыі гэтай толку вельмі мала. Дзе ж шукаць выйсце з такой несуцяшальнай сітуацыі? Выкарыстоўваць модныя індывідуальныя і калектыўныя апорныя сігналы, наладжваць разумовую працу дзяцей ў парах і групах? Але ж і выкарыстанне вопыту вядомых педагогаў не заўсёды прыводзіць да жаданага выніку. Можа таму, што адзін урок падобны на другі? А можа... Колькі такіх "а можа" не дае спакою і збівае з толку! Але гэта, як гаворыцца, паўбяды. Горш, калі падобных пытанняў увогуле не ўзнікае і за педагагічную творчасць выдаецца замацаваны за шматгадовую працу шаблон...

У чым жа сакрэт педагагічнага майстэрства яркіх, хаця часцяком і "нетытулаваных", настаўнікаў? Галоўнае, на мой погляд, у тым, што гэта людзі з новым разуменнем сваёй педагагічнай працы і з новым светаразуменнем. З новым — значыць з такім разуменнем свайго прызвання, пры якім першая роля ў навучальна-выхаваўчым працэсе адводзіцца менавіта асобе дзіцяці. З новым — значыць з такім светаразуменнем, у якім паняцце "асоба" з'яўляецца сінонімам шматграннасці развіцця, усебаковасці інтарэсаў. Не толькі асобы вучня, але і асобы настаўніка. Як вы думаеце, чаму так многа даравітых дзяцей так і не развіваюць сваю даравітасць у талент? З-за празмернай апекі? З арыентацыі настаўніка на сярэдняга вучня? Я думаю, што не толькі з-за гэтага. Адоранасць дзяцей згасае нярэдка па прычыне несамастойнасці і ляноты мыслення. Калі несамастойнасць і лянота мыслення, хаця і ненаўмысна, але ўсё ж іншы раз навязваецца адоранаму вучню школай. Менавіта таму лозунг "Патрабуецца асоба!" яшчэ доўга не страціць актуальнасць для нашай сярэдняй агульнаадукацыйнай школы.

НЯДАЎНА гутарыў з настаўнікамі пра школьнае жыццё-быццё. Квінтэсенцыя размовы такая: настаўніка трэба паставіць на самае высокае месца, павысіць яго прэстыж і матэрыяльны дабрабыт — тады і таленавітых рупліўцаў у школе стане больш. Хто будзе спрачацца з гэтым? Што да матэрыяльнага дабрабыту педагога, то настаўніцкі заробак неабходна неадкладна павышаць — гэта таксама несумненна. А што да "самага высокага месца", то мушу не пагадзіцца з шаноўнымі суразмоўцамі. Гэтае месца ў настаўнікаў ёсць — у сэрцах вучняў, у сэрцах былых выпускнікоў. І яно занята назаўсёды. А прэстыж усёй школы, на мой погляд, павысіцца толькі тады, калі яна будзе даваць кожнаму свайму выхаванцу ўнутраную працу думкі. На ўсё жыццё. Прыклады такія ёсць. У вашай школе, мяркую, таксама.

**Алег КУЛІЦКІ.**




Нашы вучні — наш гонар

# Медаль з турэцкага берага

Бронзавы медаль міжнароднай алімпіяды па абароне экалагічных праектаў, якая прайшла ў турэцкім горадзе Анталья, што на беразе Міжземнага мора, атрымаў вучань 11 класа сярэдняй школы № 6 Віцебска Вячаслаў Філімонаў. Дагэтуль Слава перамагаў на гарадской, абласной, рэспубліканскай алімпіядах, заахвочваўся прэзідэнцкай прэміяй.

НА ЗДЫМКУ: Вячаслаў Філімонаў.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА. БЕЛТА.**

Здароўе дзяцей — здароўе нацыі

# Чаму ж харчаванне нерацыянальнае?

***Рацыянальнае харчаванне — адзін з асноўных фактараў, якія фарміруюць здароўе чалавека. Асабліва адмоўна незбалансаванае харчаванне адбіваецца на здароўі дзяцей. Захворваемасць дзяцей Беларусі ад 0 — 14 гадоў (з упершыню ў жыцці вызначаным дыягназам) узрасла ў 1999 годзе ў параўнанні з 1993 годам на 34,8 працэнта. Праўда, крыху знізілася, але стабільна займае 5 — 6-е месца ў структуры агульнай захворваемасці, асабліва якая тычыцца органаў стрававання (гастрыты, дыспепсіі жоўцевыдаляльных шляхоў, нават язвы страўніка).***

***Звесткі нашых навукоўцаў сведчаць, што ў харчаванні беларусаў прысутнічае лішак жывёльнага тлушчу (сметанковае масла, сала, тлустае мяса), надзвычай нізкае спажыванне рыбы (7 — 8 кг у год), у той час як у развітых краінах рыбу спажываюць да 40 кг у год. Гэтая сітуацыя характэрная і для харчавання дзяцей, асабліва ў хатніх умовах.***

Даследаванне фактычнага харчавання і стану здароўя ў Мінскай, Гомельскай і Брэсцкай абласцях, праведзенае ў 1999 — 2000 гадах спецыялістамі Беларускага навукова-даследчага санітарна-гігіенічнага інстытута і кафедры агульнай гігіены Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута, паказала недастатковую энергетычную каштоўнасць сутачных рацыёнаў харчавання большасці абследаваных школьнікаў, за выключэннем дзяцей 7 — 10 гадоў у Гомельскай вобласці. Зніжэнне энергетычнай каштоўнасці рацыёнаў харчавання абумоўлена недастатковым утрыманнем вугляводаў і бялкоў. Так, у вясновы перыяд у 25 працэнтаў абследаваных дзяцей 7 — 10 гадоў колькасць паўнацэнных жывёльных бялкоў, неабходных маладому арганізму, крыніцай якіх з'яўляюцца мясныя прадукты, рыба, малочныя прадукты, яйкі, складаюць 21 — 28 г у суткі пры неабходным для гэтай узроставай групы — 46 г. Вынікам недастковага спажывання малака і малочных прадуктаў дзецьмі усіх узроставых груп з'яўляецца нізкае ўтрыманне кальцыю, што складае толькі 50 — 60 працэнтаў ад неабходнай колькасці. А ўсім жа вядома, што кальцый неабходны для развіцця касцёва-мышачнай сістэмы. Даследаваннямі выяўлены сімптомы недахопу вітамінаў групы В ("геаграфічны" язык, вертыкальныя трэшчыны губ, стаматыт), вітамінаў С і Р (кроватачывасць дзёснаў, сухасць і лушчэнне скуры). Лушчэнне скуры локцевых суставаў выяўлена ў значнай колькасці дзяцей, што з'яўляецца сімптомам недастатковасці вітаміну А. Як вынік — недастатковы ці нізкі ўзровень імуннай абароны ў дзяцей.

Што ж адбываецца? Чаму харчаванне нашых дзяцей нерацыянальнае? Бо асабіста Прэзідэнтам, сумеснымі намаганнямі зацікаўленых міністэрстваў, мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі зроблены шэраг захадаў па паляпшэнні харчавання ў дашкольных і вучэбна-выхаваўчых установах: на працягу больш трох гадоў кожны школьнік атрымлівае штодзённую дзяржаўную датацыю на харчаванне ў памеры 4 працэнтаў да мінімальнай заработнай платы; каля 11 працэнтаў харчуюцца бясплатна ці з 50-працэнтнай ільготай; 2 — 3-разовае харчаванне з Чарнобыльскага фонду атрымліваюць дзеці ў вучэбна-выхаваўчых установах, размешчаных на забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях; на мясцо-

(Працяг на 2-й стар.)

З пасяджэння калегіі Міністэрства адукацыі

# Здаровы лад жыцця фарміруецца ў сям'і

***У Магілёве адбылася сумесная выязная калегія трох міністэрстваў: адукацыі, аховы здароўя, спорту і турызму па арганізацыі фізічнага выхавання і ўрачэбнага кантролю дашкольнікаў, вучняў і студэнтаў Магілёўскай вобласці. У яе рабоце прынялі ўдзел: члены калегіі, начальнікі абласных упраўленняў па фізічнай культуры, спорту і турызму, старшыні абласных і Мінскага ЦФВІС навучэнцаў і студэнтаў, намеснікі старшынь рай(гар)выканкамаў Магілёўскай вобласці, кіраўнікі дашкольных і вучэбных устаноў, фізкультурна-спартыўных арганізацый адукацыі і аховы здароўя Магілёўскай вобласці. Такое мерапрыемства праводзілася невыпадкова. Пытанні фізічнага выхавання, урачэбнага кантролю сярод дзяцей і моладзі знаходзяцца пад пільнай увагай кіраўніцтва нашай краіны.***

У першай палове дня ўдзельнікі калегіі пабывалі ў дзіцячым садзе № 55 Кастрычніцкага раёна, сярэдняй школе № 43 Магілёва, Магілёўскім дзяржаўным універсітэце імя Куляшова, Магілёўскім ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга вышэйшым прафесійным аграТэхнічным вучылішчы імя К.П.Арлоўскага.

Асаблівае ўражанне на ўдзельнікаў калегіі пакінулі наведванне дзіцячай дашкольнай установы № 55 Магілёва і Магілёўскага вышэйшага прафесійнага агратэхнічнага вучылішча імя К.П.Арлоўскага. Прысутных сустрэлі з хлебам-соллю.

"Візітная картка дзіцячай адукацыйнай установы № 55" — з інфармацыяй на такую тэму перад прысутнымі выступіла загадчык дзіцячага садка Ірына Міхайлаўна Бубнова. З 1993-94 навучальнага года, — паведаміла яна, — ажыццяўляецца работа па ўвядзенні ў дзеянне элементаў методыкі Л.Д.Глазырынай — прафесара, доктара педагагічных навук — па сістэме "ненасільнай парадыгмы" фізічнага выхавання. Яе ідэя пераклікаецца з асноўнымі прынцыпамі праграмы "Пралеска", галоўнае правіла якой — "Не нашкодзь!".

Для рэалізацыі пастаўленых задач у садзе створаны аптымальныя ўмовы. Да паслуг дзяцей басейн, фізіятэрапеўтычны кабінет, фізкультурная зала, спартыўныя пляцоўкі. Выкарыстоўваюцца таксама розныя формы і метады выхавання, накіраваныя на актывізацыю рухальнай дзейнасці дзяцей, асэнсавання імі каштоўнасці ўласнага здароўя, карэкцыйна-выхаваўчых аспектаў як у час заняткаў, так і ў паўсядзённым жыцці. Педагагічны калектыў, які працуе пад дэвізам: "Усё — для шчасця дзяцей", вывучае новыя тэхналогіі для забеспячэння камфортам у соцыуме кожнага дзіцяці, ажыццяўляе прапаганду аздараўленча-фізкультурнай работы сярод бацькоў.

На працягу пяці год тут працуюць над праблемай "Ахова і ўмацаванне фізічнага і псіхічнага здароўя дзяцей", на аснове навуковых поглядаў і практычных напрацовак. Усе намаганні накіраваны на ўдасканаленне работы па ўмацаванні здароўя і развіцці творчых здольнасцей дзяцей і калектыву. На аснове дыягнастычных даных тут мяркуюць стварыць дзіцячую ўстанову новага тыпу — санаторны дзіцячы сад (2001 — 2005 гг.).

Удзельнікі калегіі потым азнаёміліся з сістэмай работы па фізічным выхаванні ў дзіцячай дашкольнай установе, аб якой расказала старэйшы выхавацель Л.Р.Калеснікава, а таксама з фрагментамі заняткаў у групе "Фантазёры" па вывучэнні "марскіх глыбінь". Іх цікава праводзіла інструктар па плаванні І.Э.Стэсева ў плавальным басейне сада. А ў заключэнне сустрэчы выхавацель С.У.Бібільнікава цудоўна прадэманстравала ўзаемадзеянне дзіцячай навучальнай установы і сям'і па здаровым ладзе жыцця (у гэтым мерапрыемстве ўдзельнічалі і мамы выхаванцаў) з рознаўзроставай групай па тэме "Побач весела крочыць"... У Магілёўскім вышэйшым прафесійным агратэхнічным вучылішчы імя К.П.Арлоўскага ўдзельнікі калегіі азнаёміліся са станам фізкультурна-масавай работы, спартыўнай базай — тэніснымі кортамі, паласой перашкод, стралковым цірам, ружэйнымі стэндамі ("бягучы кабан"), мотаклубам, стадыёнам, конна-спартыўнай секцыяй, спартыўнымі заламі (гульнявым, гімнастычным і лёгкай атлетыкі). Пазакласнай фізкультурна-масавай работай тут ахоплена звыш 500 чалавек, дзесьці каля 60 працэнтаў ад спісачнага складу навучэнцаў.

Невыпадкова за дзейсную фізкультурна-аздараўленчую і спартыўна-масавую работу вучылішча неаднаразова адзначалася граматамі, іншымі ўзнагародамі. У 1985 годзе яму было прысвоена званне "Вучылішча высокай культуры" — на яго тэрыторыі на працягу чатырнаццаці год ніхто не курыць.

У Магілёўскім дзяржаўным універсітэце імя А.А.Куляшова, дзе вучыўся прэзідэнт А.Р.Лукашэнка, першы прарэктар А.М.Радзькоў расказаў аб факультэце фізічнага выхавання, які быў створан 20 год назад. На ім працуюць цяпер 2 дактары, 17 кандыдатаў навук. Падрыхтавана 2000 спецыялістаў па фізічным выхаванні, палавіна ўсіх выкладчыкаў — выпускнікі універсітэта. Тут створаны навуковыя школы, якія забяспечваюць тэарэтычныя асновы фізічнага выхавання. Іх узначальваюць прафесары В.А.Шышкіна, М.В.Машчэнка, доктар педагагічных навук В.І.Загрэўскі. Восем маладых выкладчыкаў вучацца ў аспірантуры, два з іх — непасрэдна пры універсітэце, паспяхова праходзяць навуковыя даследаванні па арганізацыі фізічнага выхавання ў спецыяльных медыцынскіх групах (па гэтай тэме абаронена кандыдацкая дысертацыя), падрыхтавана аўтарская праграма "Адаптыўнасць фізічнай культуры".

Удзельнікі пасяджэння калегіі прысутнічалі на спаборніцтвах спартландыі, якія праводзіліся ў спартыўнай зале універсітэта, затым азнаёміліся з фрагментам заняткаў у спецыяльнай медыцынскай групе.

Дзякуючы індывідуальнаму падыходу да вызначэння нагрузак для студэнтаў у ёй, наведванне іх складае 98 працэнтаў. На працягу некалькіх год ва універсітэце праводзіцца прафарыентацыя выпускнікоў школ вобласці, што дазваляе выявіць найбольш адораных вучняў для паступлення ў гэтую ВНУ па спецыяльнасці "фізічная культура і спорт".

Па абмяркоўваемым пытанні "Аб стане работы па арганізацыі фізічнага выхавання і ўрачэбнага кантролю дашкольнікаў, вучняў і студэнтаў Магілёўскай вобласці" выступіў з дакладам намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама А.Ц.Глаз, а з садакладамі начальнікі ўпраўленняў міністэрстваў адукацыі, аховы здароўя, спорту і турызму Г.А.Бутрым, А.К.Цыбін і П.Ц.Міхеенка. Адзначана, што істотнае месца ў вобласці, а таксама і ў цэлым у краіне займаюць мерапрыемствы па актывізацыі работы па фізічным выхаванні дашкольнікаў, вучняў і студэнтаў.

На аснове рашэння Магілёўскага аблвыканкама зацверджана абласная "Праграма развіцця фізічнай культуры, спорту і турызму на 1998 — 2002 гг. Значнае месца ў ёй было адведзена пытанням паляпшэння дзейнасці фізічнага выхавання ў дзіцячых дашкольных, агульнаадукацыйных, прафесійна-тэхнічных, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах. У гарадах і раёнах вобласці прыняты ідэнтычныя праграмы. Для больш мэтанакіраванай работы ў гэтым накірунку, ажыццяўляючы пастанову Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 15 кастрычніка 1998 г. №1574 "Аб мерах павышэння эфектыўнасці фізічнага выхавання дашкольнікаў, вучняў і студэнтаў", аблвыканкамам, гарадскімі і раённымі выканаўчымі камітэтамі амаль ва ўсіх раёнах, за выключэннем Горэцкага і Шклоўскага, ва ўпраўленнях і аддзелах адукацыі ўведзены пасады работнікаў, якія курыруюць фізічную культуру, а ў 105 агульнаадукацыйных школах і 7 прафтэхвучылішчах — стаўкі лабарантаў.

Тры гады назад пры абласным упраўленні адукацыі створан экспертны савет для кантролю за эфектыўнасцю работы па фізічным выхаванні дашкольнікаў, вучняў і студэнтаў. Пры яго непасрэдным удзеле ў шэрагу раёнаў вобласці разгледжаны пытанні арганізацыі работы па фізічным выхаванні ў навучальных установах галіны. Варта зазначыць, што пасля іх разгляду на месцах і ў аддзелах адукацыі прыняты адпаведныя захады па ліквідацыі выяўленых недахопаў. Пасля гэтага яны былі вынесены на абмеркаванне калегіі абласнога ўпраўлення па фізічнай культуры і спорту аблвыканкама, дзе зроблены пэўныя высновы па актывізацыі гэтай работы. Пад пастаянным кантролем і ўвагай трымаецца стан вучэбна-спартыўных баз, адпаведнага інвентару і абсталявання, залаў, плавальных і міні-басейнаў, пляцовак, кабінетаў для заняткаў фізічнай культурай. У параўнанні з 1996 годам некалькі павялічылася колькасць спартыўных збудаванняў. На іх праводзяцца як урочныя, так і пазаўрочныя мерапрыемствы па фізічнай культуры і спорту з дашкольнікамі, навучэнцамі і студэнтамі. Так, за апошнія гады пабудавана 6 спартыўных залаў, у тым ліку пяць — у агульнаадукацыйных школах і адзін — у тэхналагічным інстытуце, 2 плавальныя міні-басейны ў дашкольных установах.

У мэтах выканання дзяржаўнай Праграмы развіцця фізічнай культуры і спорту, у вобласці плавальныя басейны замацоўваюць за навучальнымі ўстановамі, незалежна ад ведамаснай прыналежнасці. Пры гэтым акцэнтуецца ўвага на тое, каб яны і іншыя спартыўныя аб'екты эфектыўна выкарыстоўваліся ў вячэрні час, у выхадныя і ў святочныя дні. У належным стане ўтрымліваюцца і ўласныя спартыўныя збудаванні. Штогод праводзяцца рамонтна-будаўнічыя работы па падрыхтоўцы спартыўных баз навучальных устаноў да новага вучэбнага года. З мясцовых бюджэтаў, а таксама з бюджэтаў прадпрыемстваў і ўстаноў для гэтых мэт прыцягваюцца фінансавыя сродкі.

Работу па фізічным выхаванні ў вобласці праводзяць 1185 спецыялістаў. 99,4 працэнта з іх маюць сярэднюю спецыяльную і вышэйшую адукацыю. У тым ліку 82 — у дзіцячых дашкольных установах, 868 — у агульнаадукацыйных школах і адпаведна 66 і 101 ў прафесійна-тэхнічных вучылішчах, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах.

Гэта садзейнічала прыцягненню да сістэматычных заняткаў фізічнай культурай, спортам, турызмам, краязнаўствам і экскурсіямі 27936 навучэнцаў і студэнтаў. З імі працуюць 1600 трэнераў — выкладчыкаў і кіраўнікоў гурткоў.

У параўнанні з 1997 годам практычна ў два разы павялічылася колькасць навучэнцаў і студэнтаў, якія займаюцца ў спартыўных секцыях, гуртках, групах па спартыўных інтарэсах, арганізаваных на базе вучэбных устаноў. 32 працэнты вучняў і студэнтаў ахоплены рознымі формамі пазакласнай, пазашкольнай фізкультурна-спартыўнай работы.

Багаты вопыт практычнай дзейнасці па аналізу ўплыву фізічнай нагрузкі на падрыхтаванасць вучняў назапашаны ў сярэдніх школах № 4 і 25 Магілёва, Цялушкаўскай сярэдняй школе Бабруйскага раёна, сярэдніх школах № 1 і 2 Крычава і Клімавіч настаўнікамі В.К.Холадавым і Л.І.Белай, А.Г.Гацка, Г.А. і К.М.Цітовымі і А.Е. Папковым і іншымі.

Цікавыя напрацоўкі маюцца ў метадыстаў па фізічнай культуры ў дзіцячых дашкольных установах: № 55 і 103 Кастрычніцкага раёна Магілёва, № 10 "Сонейка" Крычава і яслях-садзе "Раднічок" Быхава.

Шмат увагі ўдзяляецца фізкультурна-аздараўленчай і спартыўна-масавай рабоце ў магілёўскіх політэхнікуме, будаўнічым і педагагічным каледжах, Бабруйскім аўтадарожным каледжы і Магілёўскім ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга вышэйшым прафесійным агратэхнічным вучылішчы імя К.П.Арлоўскага, дырэктарамі якіх з'яўляюцца А.Н.Шапчыц, В.К.Рабцэвіч, В.П.Клімковіч, А.С.Ляшчынскі і Г.Н.Маліноўскі.

Штогод каля 100 настаўнікаў фізічнай культуры агульнаадукацыйных школ праходзяць перападрыхтоўку на базе абласнога інстытута павышэння кваліфікацыі і ўдасканалення настаўнікаў. А за апошнія гады ахоплена вучобай 476 з 522 настаўнікаў гэтай дысцыпліны, якія павінны былі прайсці перападрыхтоўку. Упершыню на 2001 год у план работы абласнога ІПК уключана вучоба трэнераў-выкладчыкаў дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ і дзіцяча-юнацкіх клубаў фізічнай падрыхтоўкі.

У практыку работы большасці навучальных устаноў уведзен прыкладны фізкультурна-аздараўленчы комплекс "Абаронца Айчыны". Сталі традыцыйнымі і рэгулярна праводзяцца на працягу 40 год спартакіяды для моладзі дапрызыўнага і прызыўнага ўзросту. Гэта прынесла станоўчыя вынікі: каманда Магілёўскай вобласці з'яўляецца пераможцай Рэспубліканскіх спартакіяд дапрызыўнай моладзі, якія адбываліся ў сталіцы ў 1998 і 2000 гг.

Першае агульнакаманднае месца занялі магіляўчане і па выніках комплекснага заліку рэспубліканскага агляду-конкурсу ўзроўню фізічнай падрыхтаванасці вучняў агульнаадукацыйных школ вобласці ў 1998, 1999 і 2000 гг. і сталі лідэрам рэспубліканскай спартакіяды "Спешыял Алімпікс" за аналагічны перыяд. Вобласць — трохразовы чэмпіён краіны па сямі відах спорту сярод навучэнцаў спецыяльных школ-інтэрнатаў апошнія тры гады. Каманда Шклоўскай школы-інтэрната для сляпых дзяцей у рэспубліканскім спартыўным злёце "Калядныя старты" ў рамках Прэзідэнцкай праграмы "Дзеці Беларусі" заняла другое месца.

У раённых і абласных спаборніцтвах па хакею "Залатая шайба"

(Працяг на 2-й стар.)

З пасяджэння калегіі Міністэрства адукацыі

# Здаровы лад жыцця фарміруецца ў сям'і

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

ў 2000 годзе прынялі ўдзел 122 каманды, у складзе якіх было 1176 падлеткаў. А ў зімовай і летняй Спартакіядах па месцы жыхарства за права быць першымі змагаліся 2500 дзяцей. Для арганізацыі бягучага кантролю за станам здароўя дашкольнікаў, вучняў і студэнтаў, аказання першай медыцынскай дапамогі ў дашкольных навучальных установах уводзяцца стаўкі медыцынскіх работнікаў, а ў лячэбна-прафілактычных — арганізавана работа груп ЛФК. Дзіцячыя сады Магілёва забяспечаны медработнікамі на 90 працэнтаў, школы — на 48,2, а ў сярэдніх спецыяльных установах і 12 прафесійна-тэхнічных вучылішчах працуе 15 медыцынскіх сясцёр. Заняткі груп ЛФК, у якіх займаецца 1058 вучняў, арганізаваны на базе фізкультурнага дыспансера, у сярэдняй школе № 42, дзіцячых паліклініках — яны праводзяцца спецыяльна падрыхтаванымі медработнікамі.

У цэлым па вобласці дашкольныя ўстановы забяспечаны медработнікамі: на 83 працэнты прафесійна-тэхнічныя вучылішчы і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы — на 100 працэнтаў.

Адзін раз у год выхаванцы дзіцячых дашкольных устаноў і вучні школ, ССНУ і студэнты вышэйшых навучальных устаноў праходзяць медагляд. Затым адбываецца размеркаванне на групы здароўя.

Але ў рабоце па арганізацыі фізічнага выхавання і ўрачэбнага кантролю маюць месца і істотныя недахопы, нявыкарыстаныя рэзервы і магчымасці. Так, у сістэме адукацыі па раздзелу "фізічная культура і спорт" за апошнія чатыры гады ў пяць раз знізіўся аб'ём бюджэтнага фінансавання.

Спартыўным інвентаром і абсталяваннем агульнаадукацыйныя школы Магілёўшчыны забяспечаны толькі на 30 працэнтаў ад неабходнага, прафесійна-тэхнічныя вучылішчы — на 24 і вышэйшыя навучальныя ўстановы — на 32 працэнты. Спартыўны інвентар і абсталяванне для навучальных устаноў у некаторых раёнах вобласці не набываліся на працягу 3 — 5 год.

На 10 працэнтаў ніжэй, чым у сярэднім па рэспубліцы, забяспечанасць школьнымі заламі. У шэрагу вучэбных устаноў на ўроках фізічнай культуры адначасова займаюцца 2 — 3 класы, а пачатковыя класы вымушаны займацца ў вестыбюлі школы ў сувязі з недахопам спартыўных залаў і перагрузкай школ навучэнцамі.

Не садзейнічае павышэнню эфектыўнасці правядзення заняткаў па фізічнай культуры, арганізацыі пазакласнай секцыйнай работы і ўрачэбнага кантролю кадравы дэфіцыт спецыялістаў фізічнай культуры і медыцынскіх работнікаў.

Так, на 1 верасня 2000 г. у школах вобласці было 44 вакансіі спецыялістаў фізічнай культуры. Горш таго, 20 працэнтаў дзіцячых дашкольных устаноў і 70 працэнтаў школ не маюць штатных медыцынскіх работнікаў.

Побач з гэтым са 102 выпускнікоў факультэта фізічнай культуры Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А.Куляшова да месца прызначэння прыбылі толькі 39, што складае 38 працэнтаў ад накіраваных. Варта зазначыць таксама, што не маюць спецыяльнай адукацыі 30 настаўнікаў фізічнай культуры ў дзіцячых дашкольных установах. І толькі адзін выкладчык гэтага прадмета прыходзіцца на восем дашкольных устаноў.

А настаўнікі пачатковых класаў у некаторых агульнаадукацыйных школах праводзяць заняткі па фізічнай культуры, не маючы адпаведнай спецыяльнай адукацыі.

Колькасць вучняў і студэнтаў, якія займаюцца ў гуртках і секцыях на базе навучальных устаноў, на тры працэнты ніжэй, чым у цэлым па рэспубліцы.

У справе перападрыхтоўкі спецыялістаў фізічнай культуры для сістэмы адукацыі не ў поўнай меры ажыццяўляюцца магчымасці Інстытута павышэння кваліфікацыі Акадэміі фізічнага выхавання і спорту, Магілёўскага абласнога інстытута павышэння кваліфікацыі і ўдасканалення настаўнікаў.

У спрэчках па дакладзе і садакладах выступілі 12 чалавек. У іх ліку: дырэктар сярэдняй школы № 4 Магілёва В.В.Мяшкоў, кіраўнік фізічнага выхавання вышэйшага прафесійнага ліцэя хімікаў Магілёва В.М.Губанаў, загадчыкі аддзелаў адміністрацыі Асіповіцкага і Чаускага райвыканкамаў І.І.Пузына і Р.Р.Мардачоў, галоўны ўрач дыспансера спартыўнай медыцыны ўпраўлення па фізічнай культуры, спорту і турызму Магілёўскага аблвыканкама В.В.Рублеўскі, першы прарэктар Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А.Куляшова А.М.Радзькоў, загадчык аддзялення ўрачэбнага кантролю Рэспубліканскага дыспансера спартыўнай медыцыны Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь Г.А.Бонік, кансультант арганізацыйна-метадычнага кабінета Рэспубліканскага дыспансера спартыўнай медыцыны Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь, доктар медыцынскіх навук, прафесар Н.Ц.Лебедзева. Выступаючыя выказалі занепакоенасць недахопам абсталявання, недастатковым умацаваннем спартыўных баз і збудаванняў, забеспячэннем кадрамі і інвентаром.

У рабоце калегіі прынялі ўдзел і выступілі па абмяркоўваемым пытанні міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь Васіль Стражаў, віцэ-прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі, першы намеснік міністра спорту і турызму Генадзь Аляксеенка, першы намеснік міністра аховы здароўя Уладзімір Арахоўскі, намеснік міністра спорту і турызму Міхаіл Юспа.

Калегія прыняла пастанову аб далейшай актывізацыі работы па арганізацыі фізічнага выхавання і ўрачэбнага кантролю дашкольнікаў, вучняў і студэнтаў у Магілёўскай вобласці. Вызначаны канкрэтныя задачы ўсім структурным падраздзяленням міністэрстваў адукацыі, аховы здароўя, спорту і турызму Рэспублікі Беларусь, а таксама Магілёўскага аблвыканкама па рэалізацыі прынятай пастановы.

Падводзячы вынікі калегіі, міністр адукацыі акцэнтаваў увагу на правядзенні фізічнага выхавання праз дашкольныя ўстановы і выказаў меркаванне, што гэта з'явіцца важным аспектам выхаваўчага працэсу сістэмы адукацыі, маючы на ўвазе стройную канцэпцыю: сад — школа — ПТВ — ССНУ — ВНУ.

**Матэрыял з пасяджэння сумеснай калегіі падрыхтаваў да друку карэспандэнт Пётр ШУБЯНОК.**

# Сацыяльны партрэт настаўніка ў лічбах і фактах

***Пастаянна ў цэнтры ўвагі і клопату галіновага прафсаюза — узровень заработнай платы работнікаў сістэмы адукацыі. У снежні адбылася сустрэча лідэра прафсаюза Тамары Чобатавай з прэм'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Ярмошыным. Асноўная тэма размовы — недастойна нізкі ўзровень аплаты працы педагагічных работнікаў.***

***ЦК прафсаюза знаёміць чытача з аналізам статыстычных звестак па заработнай плаце ў галіне за мінулы год.***

Аб'ектыўным паказчыкам рэальнага ўзроўню заработнай платы ў любой бюджэтнай сферы з'яўляюцца яе суадносіны з сярэднім узроўнем зарплаты ў прамысловасці. Выраўноўванне гэтых узроўняў, як вядома, прадугледжана Дзяржаўнай праграмай "Настаўнік", Генеральным пагадненнем, заключаным паміж урадам, рэспубліканскім аб'яднаннем наймальнікаў і Федэрацыяй прафсаюзаў на 1998 — 2000 гады. У названым пагадненні ўрад браў на сябе абавязацельства вырашыць гэтую праблему ў 2000 годзе. Але "воз і цяпер там". Больш за тое, да пачатку навучальнага года гэтыя суадносіны знізіліся да 46,1 працэнта.

З 1 кастрычніка былі ўведзены новыя ўмовы аплаты працы, павышаны мінімальная зарплата і стаўка першага тарыфнага разраду. І што ж? Сярэднямесячная заработная плата работнікаў у галіне пасля кастрычніцкага павышэння склала крыху больш паловы (64 працэнты) сярэднямесячнай зарплаты ў прамысловасці (у тым ліку настаўнікаў — 73,6 працэнта, педработнікаў — 70,9 працэнта). Але і гэты ўзровень дасягнуты за кошт працы, што выконваецца звыш стаўкі, аплаты за дадатковыя віды педагагічнай працы (класнае кіраўніцтва, праверка сшыткаў і інш.).

Як гэта павышэнне адбілася на пакупной здольнасці зарплаты, пакажа нам параўнанне яе з мінімальным спажывецкім бюджэтам. У кастрычніку гэтыя суадносіны складалі 101,6 працэнта, што ў параўнанні са студзенем-вераснем 2000 года на 10,9 працэнта вышэй. Вобразна кажучы, калі ў студзені-верасні работнік адукацыі мог купіць толькі 90,7 працэнта набору тавараў і паслуг, што ўваходзяць у мінімальны спажывецкі кошык, то ў кастрычніку — 1,1 працэнт набору. А гэта значыць, што па-ранейшаму ён можа пракарміць толькі самога сябе і толькі 0,1 утрыманца. Нагадаем: у 1992 годзе ён мог пракарміць сябе і аднаго ўтрыманца поўнасцю.

Улічваючы, што ў нашых установах працуе абсалютная большасць спецыялістаў з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй, было б справядліва, калі б адбылося збліжэнне зарплаты педагагічных работнікаў і служачых у прамысловасці. Дарэчы, гэта прадугледжана цяпер дзеючым Законам аб адукацыі. Аднак у студзені — верасні 2000 года сярэднямесячная зарплата служачых у прамысловасці склала 84,3 тыс. рублёў, а педработнікаў — 43,6 тыс. рублёў, ці 51,7 працэнта ад гэтага ўзроўню, у тым ліку настаўнікаў — 45,2 тыс. рублёў, ці 53,6 працэнта, што ніжэй за аналагічныя паказчыкі мінулага года адпаведна на 1,6 і 2,1 працэнта. У аплаце працы прафесарска-выкладчыцкага саставу адбыліся невялікія зрухі. У сувязі з увядзеннем ва ўсіх ВНУ павышаючага каэфіцыента да 1,4 памер аплаты іх працы ў кастрычніку 2000 года ў параўнанні з вераснем павялічыўся на 40 працэнтаў і склаў 119,7 тыс. рублёў, ці 131,1 працэнта ад узроўню ў прамысловасці (у верасні — 104,2 працэнта). Цяпер на сваю зарплату дацэнт, прафесар могуць акрамя сябе пракарміць яшчэ аднаго ўтрыманца.

А што змянілася ў аплаце працы маладога спецыяліста? Службовы аклад пачынаючага спецыяліста, выпускніка вышэйшай навучальнай установы склаў у кастрычніку 20,4 тыс. рублёў, ці 57,6 працэнта ад вызначанага ў верасні бюджэту пражытачнага мінімуму. Каментарыі, як кажуць, не патрэбны!

Што да аплаты працы абслуговага персаналу, то іх зарплату ўвогуле няма з чым параўнаць. Пасля ўсіх належных выплат дзяржаве ў прыбіральшчыцы застаецца каля 16 тыс. рублёў, у той час як бюджэт пражытачнага мінімуму роўны 35,4 тыс. рублёў, а МПБ — 57,5 тыс. рублёў. Як жыць, калі адбываецца пастаяннае павышэнне цэн, квартплаты, платы за электраэнергію, за праезд у транспарце і г.д.?

У кастрычніку мінулага года ў параўнанні са снежнем пазамінулага года платныя паслугі падаражэлі ў 2,8 раза, прычым аднолькава шпаркімі тэмпамі ўзрасталі лічбы на цэнніках на харчовыя і нехарчовыя тавары, якія за гэты перыяд павялічыліся адпаведна ў 1,8 і 1,9 раза.

Жыццё не стаіць на месцы, і настаўніцкай зарплаце ніяк не ўгнацца за павышэннем цэн. Мяркуйце самі: з 1 кастрычніка 2000 года прайшло павышэнне, а ў лістападзе ўсе адносныя паказчыкі па зарплаце ў галіне зноў знізіліся. Так, сярэдняя зарплата (57 100 рублёў) склала 60,6 працэнта ад сярэдняга ўзроўню ў прамысловасці і 94,3 працэнта ад МПБ.

З 1 снежня 2000 года ўрад ізноў вырашыў павысіць заработную плату бюджэтнікам (у тым ліку і настаўнікам). Можа, гэта рэальна паўплывае на стан спраў?

Паводле папярэдніх разлікаў, павышэнне тарыфных ставак (акладаў) работнікаў 1 — 22 тарыфных разрадаў дасць магчымасць павысіць зарплату нізкааплачваемых катэгорый работнікаў на 40 — 45 працэнтаў, настаўнікаў — на 20 — 37 працэнтаў, тады як спажывецкія цэны да моманту атрымання заработнай платы ў студзені 2001 года, згодна з прагнозам, павялічацца больш чым на 20 працэнтаў. Атрымліваецца, што для большасці працуючых павышэнне заработнай платы стане па сутнасці кампенсацыяй за павелічэнне цэн.

У ліку малазабяспечаных па-ранейшаму застаюцца многія катэгорыі работнікаў галіны. Школьная прыбіральшчыца, якая працуе на стаўку, з улікам матэрыяльнага заахвочвання атрымае "на рукі" каля 23 тыс. рублёў. Стаўка заработнай платы (службовы аклад) настаўніка, выхавацеля дзіцячай дашкольнай установы і інш. з вышэйшай адукацыяй, вышэйшай катэгорыяй склала ў снежні 30,1 тыс. рублёў, што ніжэй за пражытачны мінімум у 1,18 раза і адпавядае толькі 52,3 працэнта мінімальнага спажывецкага бюджэту, які ў кастрычніку склаў 57,4 тыс. рублёў.

Гэты бязрадасны аналіз няўмольнай статыстыкі яшчэ раз пацвярджае, што прайшоўшая ў кастрычніку — лістападзе 2000 года акцыя па зборы подпісаў ва ўрад за дастойную аплату працы работнікаў галіны застаецца па-ранейшаму актуальнай. Патрабаванне прафсаюза — прыняць неадкладныя меры па давядзенні ў 1 квартале 2001 года зарплаты ў галіне адукацыі да аналагічнага ўзроўню ў прамысловасці — перададзена прэм'ер-міністру Рэспублікі Беларусь. **Толькі станоўчае вырашэнне можа знізіць сацыяльную напружанасць у педагагічных калектывах, спыніць адток кадраў з галіны.**

**ЦК прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі.**

Здароўе дзяцей — здароўе нацыі

# Чаму ж харчаванне нерацыянальнае?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

вых узроўнях імкнуцца зрабіць харчаванне больш танным; значная датацыя дзяржавы выдаткоўваецца на ўтрыманне дзяцей у дашкольных установах.

Відавочна, што ў харчаванні дзяцей і падлеткаў на сённяшні дзень шмат нявырашаных праблем і недахопаў, якія абмяркоўваліся на нарадзе з кіраўнікамі аховы здароўя пры Прэзідэнце РБ у лістападзе, на калегіі Дзяржкантролю РБ у кастрычніку мінулага года.

Перш за ўсё гэта невыкананне ў арганізаваных дзіцячых калектывах натуральных норм харчавання па мясе, рыбе, кісламалочнай прадукцыі, гародніне, садавіне, соках, і асабліва ва ўстановах сельскай мясцовасці. Факты значнага невыканання норм харчавання выяўлены санэпідслужбай нават у інтэрнатных установах, што недапушчальна (Круглянская спецшкола-інтэрнат Магілёўскай вобласці, Старабарысаўская санаторная школа-інтэрнат, Валожынская школа-інтэрнат для дзяцей-сірот). Да прыкладу, у Валожынскай школе-інтэрнаце для дзяцей-сірот у лістападзе дзеці недаатрымалі 65 працэнтаў рыбы, 53 працэнты тварагу, 27 працэнтаў гародніны, 90 працэнтаў сокаў, 30 працэнтаў яек. Садавіну не атрымлівалі ні разу; у асартыменце мясных прадуктаў пераважалі каўбасныя вырабы — перавыкананы на 50 працэнтаў. Такая сітуацыя абумоўлена не столькі фінанасавымі праблемамі, колькі перабоямі з дастаўкай прадукцыі і халатным стаўленнем да сваіх абавязкаў кіраўнікоў устаноў. Няўжо зацікаўленыя ведамствы (сістэма адукацыі, гандлю, спажыўкааперацыі) не могуць арганізаваць кальцавы завоз прадуктаў ва ўсе ўстановы, у тым ліку ў сельскія дашкольныя, як гэта вырашана ў Гомельскай вобласці, і прыняць усе магчымыя меры па выкананні норм харчавання?

Нягледзячы на тое, што дзеці недастаткова спажываюць вітамінаў, у некаторых установах нерэгулярна праводзіцца абавязковая С-вітамінізацыя рацыёнаў харчавання (сярэдняя школа № 9 Жодзіна, сярэдняя школа № 3 Маларыты і інш.).

Маюць месца факты неадпаведнасці страў па харчовых рэчывах і энергіі меню-раскладкам, хоць лабараторны кантроль (як і вытворчы, з боку санэпідслужбы) узмоцнены. Колькасць неадпаведных вынікаў склала 17,8 працэнта за мінулы перыяд бягучага навучальнага года (за мінулы навучальны год — 14,8 працэнта). Значнае недаўкладванне прадуктаў выяўлена ў агульнаадукацыйных школах вёсак Чарнова, Грэбянец, Чарнаградзь Чэрвеньскага раёна, в. Обчын Любанскага раёна, у Астравенскай і Каранеўскай школах Бешанковіцкага раёна, № № 39, 22 Віцебска, яслях-садах № № 34, 24 Наваполацка, № № 46, 45 Віцебска, № 16 Жодзіна і інш.

Праблемным застаецца пытанне прывядзення харчаблокаў у належны санітарна-тэхнічны стан: значная частка халадзільнага і тэхналагічнага абсталявання поўнасцю зношана. Але ж ад аснашчэння харчаблокаў залежыць асартымент страў і іх бяспека.

Не заўсёды кіраўнікамі ўстаноў, зацікаўленымі ведамствамі, якія арганізуюць харчаванне, робяцца ўсе магчымыя захады па паляпшэнні харчавання. Санэпідслужбай выяўляюцца парушэнні тэрмінаў і правілаў захоўвання, транспарціроўкі прадукцыі, якая хутка псуецца, санітарных правілаў па ўтрыманні вытворчых памяшканняў. Санэпідслужба вымушана ўзмацніць патрабаванні да службовых асоб, якія адказваюць за забеспячэнне якаснага і паўнацэннага харчавання дзяцей у вучэбна-выхаваўчых установах. Аштрафавана за мінулы перыяд бягучага навучальнага года 2210 службовых асоб (за навучальны 1999 — 2000 год — 2410), у тым ліку за апошнія два тыдні — 648. Вынесена 411 пастаноў аб закрыцці харчаблокаў з-за нездавальняючага санітарна-тэхнічнага ці санітарнага стану (на санітарны дзень).

Я спадзяюся, што кіраўнікамі ўстаноў, ведамствамі, якія арганізуюць харчаванне, будуць зроблены ўсе неабходныя захады па яго паляпшэнні. Прайшлі зімовыя канікулы ў школьнікаў. За гэты час можа было прывесці да ладу матэрыяльна-тэхнічны стан харчаблокаў, арганізаваць адпаведнае навучанне работнікаў харчаблокаў.

Нягледзячы на дапамогу дзяржавы па забеспячэнні харчаваннем дзяцей у дашкольных і вучэбна-выхаваўчых установах, бацькі павінны выразна ўсведамляць, што ў мэтах захавання здароўя правільна карміць дзіця — гэта перш за ўсё іх задача.

Есці дзеці павінны з інтэрвалам у 3,5 — 4 гадзіны, гэта значыць 4 — 5 разоў на дзень. Максімальны аб'ём ежы павінен прыпадаць на абед. Снеданне і вячэра павінны быць па аб'ёме і каларыйнасці раўназначныя. Вячэраць патрэбна за 1 — 1,5 гадзіны да сну. Выпраўляючы дзіця ў школу, неабходна накарміць яго снеданнем.

Важна, каб дзіця з прадуктамі харчавання атрымлівала ўсе неабходныя харчовыя рэчывы (бялкі, тлушч, вугляводы, мікраэлементы, вітаміны), неабходныя для яго росту і гарманічнага развіцця, а таксама выпрацоўкі імунітэту да розных інфекцый. Таму трэба як мага больш разнастаіць ежу. Такія прадукты як мяса, яйкі, малако і кісламалочныя прадукты, сметанковае і раслiннае масла, хлеб, гародніна, садавіна павінны быць у рацыёне харчавання дзіцяці штодзень; 2 — 3 разы на тыдзень неабходна ўключаць рыбу, тварог. З 400 — 500 г неабходнай штодзённай колькасці малака каля 30 працэнтаў павінны складаць кісламалочныя прадукты (кефір, ацыдафілін, йогурт), якія забяспечваюць нармальную работу кішэчніка.

Мяса павінна быць нятлустае — пераважна ялавічына. Не трэба злоўжываць каўбасамі варанымі, сасіскамі варанымі — рэкамендуюцца для харчавання дзяцей толькі вышэйшы і першы гатункі, не больш як 2 разы на тыдзень. Для лепшай засваяльнасці паўнацэнных бялкоў, што ўтрымліваюцца ў мясе, яго рэкамендуецца спажываць з агароднiннымі гарнірамі — гародніна павышае засваяльнасць мясных вырабаў да 96 працэнтаў, у той час як з крупянымі гарнірамі мяса засвойваецца толькі на 80 працэнтаў.

У харчаванні дзяцей павінны выкарыстоўвацца разнастайныя крупы, перавагу патрэбна аддаваць грэцкім і аўсяным, асабліва каштоўным па бялковым і мінеральным складзе. Гэтым жа вызначаюцца і бабовыя культуры. Патрэбна ўлічваць, што крупяныя стравы добра засвойваюцца з малаком і тварагом.

Важна як мага больш уключаць у харчаванне свежыя гародніну і садавіну, якія з'яўляюцца асноўнай крыніцай мікраэлементаў і вітамінаў. Наша традыцыйная гародніна — капуста, буракі, морква, кабачкі, садавіна, разнастайнае свежае зяленіва (шпінат, кроп, пятрушка і г.д.), а таксама зялёная і рэпчатая цыбуля, часнок — цалкам можа забяспечыць неабходную колькасць мікраэлементаў і вітамінаў. Часнок і цыбулю асабліва карысна выкарыстоўваць у перыяд павелічэння захворваемасці грыпам і вострымі рэспіраторнымі захворваннямі (лістапад — люты). Здробнены часнок можна выкарыстоўваць як дабаўку да першай стравы, у салаты.

Неабходна памятаць, што мы і нашы дзеці жывём ва ўмовах ускладненай экалагічнай сітуацыі пасля аварыі на ЧАЭС. З мэтай вывядзення, нейтралізацыі магчыма паступіўшых у арганізм радыенуклідаў неабходна ўключаць у харчаванне прадукты, якія ўтрымліваюць пекцін, ёд. Гэта разнастайная свежая садавіна, асабліва яблыкі, гароднінныя і фруктовыя сокі з мякаццю, сухафрукты. Багатыя на пекцін такія прысмакі як зефір, мармелад, пастыла. Важнай крыніцай ёду і іншых мікраэлементаў з'яўляюцца марская капуста і іншыя морапрадукты. Пажадана не гатаваць першыя стравы на булёне з касцей — выкарыстоўваць мясныя булёны ці гатаваць вегетарыянскія першыя стравы, як гэта прынята ў дзіцячых арганізаваных калектывах.

Як правіла, дзецям у сям'і ежа асобна не гатуецца. А між тым трэба ўлічваць, што ў дзіцяці страўнікава-кішэчны тракт не сфарміраваны, таму харчаванне павінна быць адпаведным. Аптымальнымі спосабамі прыгатавання ежы для дзіцяці павінна быць тушэнне, парэнне, запяканне. Не трэба захапляцца прыгатаваннем страў у фрыцюры, выкарыстоўваннем вострых прыпраў (хрэн, воцат, маянэз, таматны соус, перац). Іх лепш замяніць лімоннай кіслатой ці рознымі смятаннымі соусамі. Пры прыгатаванні ежы з тлушчам лепш выкарыстоўваць сметанковае і раслiннае масла. З раслiннага масла неабходна дома мець рафініраванае — для смажання, і нерафініраванае — для запраўкі салатаў. Нерафініраванае масла карыснае тым, што ўтрымлівае шэраг поліненасычаных тлустых кіслот, якія не выпрацоўваюцца ў арганізме.

**В.ФІЛОНАЎ,**
**намеснік міністра аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, Галоўны дзяржаўны санітарны ўрач, доктар медыцынскіх навук.**

Весткі з Дзяржынска

## Будзе аблегчана доля сіроцкая

У раённым аддзеле адукацыі створаны сектар па абароне дзяцінства. Яго ўзначальвае вядучы спецыяліст А.А.Федаровіч. Сектар створаны ў сувязі з узрослым аб'ёмам работы, павелічэннем колькасці праблемных сем'яў. Іх цяпер у раёне налічваецца 268, у якіх выхоўваюцца 374 непаўналетнія дзіцяці. Пад апекай знаходзяцца 82 дзіцяці-сіроты, з іх усяго 19 набылі паўнацэнную апякунскую сям'ю, 28 змешчаны ў Станькаўскую школу-інтэрнат.

Толькі з верасня мінулага года ў сектар звярнуліся больш за 500 грамадзян па розных пытаннях. Гэта пазбаўленне бацькоўскіх правоў; апека; усынаўленне; змяненне прозвішчаў; вырашэнне спрэчак паміж бацькамі; выяўленне і ўладкаванне дзяцей, што засталіся без апекі; абарона маёмасных правоў непаўналетніх; абследаванне ўмоў жыцця і выхавання дзяцей і інш.

Накіравана ў суд 36 іскаў у дачыненні да 74 дзяцей. Сацыяльныя і круглыя сіроты знаходзяцца ў раённай Станькаўскай школе-інтэрнаце.

## Злёт краязнаўцаў

Адбыўся традыцыйны раённы злёт юных краязнаўцаў. Яго дэвіз — "Мой родны кут, як ты мне мілы!". Падрыхтоўка да злёту і яго правядзенне пашыраюць веды дзяцей пра родныя мясціны, папаўняюць спіс патрыётаў Бацькаўшчыны імёнамі славутых землякоў, садзейнічаюць захаванню культурных традыцый, дапамагаюць падзяліцца назапашаным вопытам па арганізацыі школьных музеяў.

У прадстаўленых на выставе матэрыялах і выступленнях удзельнікаў адлюстравана мэтанакіраваная работа большасці школ раёна па праграмах 3-га этапа Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі "Наш край".

Школы-ўдзельнікі злёту ўзнагароджаны ганаровымі граматамі аддзела адукацыі.

## "Сам сабе цырульнік"

Так называецца гурток Цэнтра дзіцячай творчасці, якім кіруе Т.А.Ахрэм. Гурткоўцы дэманструюць прычоскі на прадпрыемствах, у бібліятэках, ездзяць на розныя выставы па праглядзе прычосак, праводзяць сустрэчы з вучнямі школ, медработнікамі, цырульнікамі.

Курс "Сам сабе цырульнік" дапамагае авалодаць не толькі першаснымі навыкамі догляду заваласамі, рукамі, тварам, але і правіламі гігіены. Гурткоўцы вучацца рабіць розныя варыянты стрыжак, якія не патрабуюць высокай кваліфікацыі.

Кіраўнік гуртка Таццяна Адасьеўна на сваіх занятках дае выхаванцам і тэарэтычную інфармацыю.

**Тамара ШАЎЧЭНКА.**

Выхаванне: погляд псіхолага

# Творчая асоба: хто ўплывае на яе развіццё?

***Ажыццяўляемая сёння рэформа адукацыі актывізавала намаганні ўсіх педагогаў, кіраўнікоў, бацькоў па забеспячэнні асобасна арыентаванай мадэлі выхавання і адукацыі. Гэтая мадэль ставіць у цэнтр усяго вучэбна-выхаваўчага працэсу асобу вучня: менавіта яна з'яўляецца прадметам увагі настаўніка, які выступае як арганізатар вучэбна-пазнавальнай дзейнасці вучняў. Перш за ўсё задавальняюцца тыя патрэбнасці школьнікаў, якія з'яўляюцца крыніцай развіцця іх асобы.***

Намаганні педагогаў даюць свой плён: пашырылася ўяўленне ўдзельнікаў вучэбна-выхаваўчага працэсу аб асобе, асаблівасцях яе развіцця, узрасло значэнне гэтага паняцця, больш уважліва даследуюцца асобасныя змены, ствараюцца адэкватныя для асобаснага развіцця ўмовы дзейнасці, узаемін.

Відавочны рост асобаснай актыўнасці, самапавагі ў адной часткі маладых людзей, але, з другога боку, нельга не бачыць, што побач з яркімі, творчымі, актыўнымі маладымі людзьмі, якія імкнуцца да адукацыі, самарэалізацыі, дыялогу з іншымі людзьмі і грамадствам, знаходзяцца і тыя, каго можна вызначыць як асобасна непаўнацэнныя людзі. Яны не імкнуцца да самарэалізацыі, у іх недастатковая самапавага, яны залежаць ад знешніх абставін і моцных людзей, абвінавачваюць у сваіх праблемах усіх, але не сябе, не ўяўляюць сэнсу свайго жыцця, паводзін, дзейнасці. Узнікае пытанне: чаму так адбываецца? Адначасова з пытаннем паяўляецца патрэбнасць вывучаць уяўленні маладых людзей пра сябе, сваю асобу, умовы развіцця, наколькі адэкватныя гэтыя ўяўленні рэальнасці.

Паўстае задача: вывучаць і ўяўленні, і змяненні, каб адны з іх — пазітыўныя — узмацніць, падтрымаць, іншыя — негатыўныя — ведаць, як карэціраваць, змяняць.

Больш пільнай увагі ў сувязі з гэтым заслугоўваюць перакананні і погляды, дзеянні і ўчынкі, матывы і праяўленні пачуццяў маладых людзей. Іх аналіз не проста цікавы, а павучальны і карысны ўсім, хто звязаны з выхаваннем моладзі.

Кіруючыся гэтай устаноўкай, мы палічылі неабходным і важным выявіць стаўленне маладых людзей да паняццяў, праяў, дзеянняў, якія можна вызначыць як асобасныя.

Як вядома, юнацкі ўзрост — перыяд станаўлення характару асобы, самапазнання і самасцвярджэння, а ў сувязі з гэтым — абвостранага ўспрыняцця ўсяго, што звязана з асобасным развіццём. З другога боку, падобныя веды неабходны педагогу, псіхолагу для таго, каб вызначыць, наколькі педагагічныя намаганні і ўздзеянні адэкватныя тым новаўвядзенням, якія ўзнікаюць у юнацкай самасвядомасці.

Мы часта гаворым, якімі трэба быць, каб стаць асобай, але не менш важна, якімі з'яўляюцца і нашы вучні.

Мы распрацавалі анкету "Я — асоба", якая ўключае ў сябе дзесяць пытанняў, і прапанавалі вучням 9 — 11 класаў адказаць на яе пытанні. Агульная колькасць рэспандэнтаў — 90 чалавек.

Назавём частку пытанняў, прапанаваных старшакласнікам:

1. Што, на тваю думку, азначае паняцце "асоба"?

2. Як школа, настаўнікі дапамагаюць табе станавіцца асобай?

3. Якую ролю ты сам адыгрываеш у развіцці ўласнай асобы?

4. Ад чаго залежыць развіццё асобы?

5. Якую ролю адыгрывае класны кіраўнік у развіцці асобы?

6. Чаму ў некаторых пачынаецца працэс дэградацыі асобы?

7. Што ў большай ступені з'яўляецца паказчыкам развіцця асобы: тое, што бярэ асоба ад іншых і жыцця, ці тое, што аддае іншым, грамадству? і г.д.

Аналіз адказаў уяўляе несумненную цікавасць для педагогаў, псіхолагаў, бацькоў, таму мы вырашылі пазнаёміць з ім.

Перш за ўсё хочацца падкрэсліць, што большасць апытаных старшакласнікаў дастаткова дакладна вызначае паняцце "асоба": "гэта той, хто адказвае за свае ўчынкі, прымае рашэнні, актыўна ўдзельнічае ў жыцці грамадства; той, хто з'яўляецца гаспадаром самога сябе; хто не зліўся з шэрай масай" і г.д. Для параўнання звернемся да вызначэння асобы, дадзенага Л.І.Бажовіч: "Асоба — такі ўзровень псіхічнага развіцця, які дае магчымасць чалавеку кіраваць самім сабой і абставінамі свайго жыцця".

Частка апытаных, вызначаючы асобу, робіць акцэнт на тым, што гэта "інтэлектуальна развіты чалавек, разумны, можа пастаяць за сябе, дасягнуў большага, чым іншыя, яго паважаюць сябры і блізкія, ён надзелены духоўнымі якасцямі".

Нязначная колькасць удзельнікаў апытання, разважаючы пра асобу, змешвае гэтае паняцце з індывідуальнасцю. Сустракаюцца сцверджанні (прыкладна 0,5 працэнта), што "ўсе людзі — асобы" ці "кожны — асоба".

Адказваючы на другое пытанне, старшакласнікі падкрэсліваюць ролю школы, настаўнікаў у развіцці сваёй асобы. Гэта перш за ўсё — веды, якія яны атрымліваюць: "разумныя думкі, аваладанне культурай, тлумачэнне правоў і абавязкаў". Адзначаецца роля педагогаў у разуменні нашых памылак: у выхаванні ўласным прыкладам, у навучанні самастойнасці. Абагульняючы, патрэбна ўказаць на ўплыў настаўнікаў пераважна праз навучанне. Практычна адсутнічаюць указанні на ролю школы, яе выхаваўчую дзейнасць, характар узаемін. Прыкладна 10 працэнтаў выказваюцца няўхвальна аб ролі школы: "настаўнікі стараюцца знішчыць індывідуальнасць", "аказваюць ціск" і г.д.

Пра свой асабісты ўдзел у фарміраванні ўласнай асобы маладыя людзі выказваюцца наступным чынам: "стараюся, чытаю кнігі, гляджу тэлевізар; развіваю свой характар, унутраны свет". Большасць сцвярджае, што настаўнікі адыгрываюць галоўную ролю, не раскрываючы змест больш падрабязна. Найчасцей ужываецца дзеяслоў "стараюся". Што за гэтым схавана — задача далейшага вывучэння.

Выяўляючы фактары, якія абумоўліваюць развіццё асобы, старэйшыя школьнікі вылучаюць тыя, якія можна вызначыць як знешнія: залежаць ад навакольнага свету, грамадства, калектыву, бацькоў, сяброў, родных, выхавання ў дзяцінстве, становішча ў краіне, узаемін, школы і г.д. Такім чынам, менш за ўсё — ад самога чалавека. Прыкладна 18 працэнтаў ад колькасці апытаных лічаць, што — ад самога чалавека; і як варыянт — ад самога чалавека і асяроддзя (грамадства). Як відаць, маладыя людзі адводзяць сабе дастаткова пасіўную, сціплую ролю ў развіцці ўласнай асобы. Ці не сведчанне гэта пэўнай недаацэнкі сваіх магчымасцей, здольнасцей, адсутнасці адпаведных маральных установак, інфантылізму? Не рызыкую сцвярджаць катэгарычна, што гэта так, але падстава для развагі, безумоўна, ёсць.

Маладыя людзі ўвогуле высока ацэньваюць ролю калектыву (класнага, школьнага) у развіцці асобы: "калектыў дае ацэнку ўчынкам, дзеянням, прымушае ўдасканальвацца; побач з добрымі людзьмі абавязкова сфарміруецца сапраўдная асоба; там, дзе заканчваецца барацьба за таварыша, пачынаецца здрадніцтва; чалавек падладжваецца пад іншых, калі нестае сілы волі" і г.д. Некаторыя, адзначаючы значную ролю калектыву ў развіцці асобы, шчыра прызнаюць, што іх клас такім не з'яўляецца: "наш клас нядружны, таму я не з усімі ў блізкіх адносінах; трэба, каб было больш станоўчых людзей, не ўсякі клас — калектыў" і г.д.

Адказы на пытанне аб прычынах дэградацыі асобы сведчаць аб правільным разуменні іх большасцю (да 80 працэнтаў) апытаных. Такіх людзей яны вызначаюць як: "слабыя людзі, якія не маюць інтарэсаў у жыцці, не могуць дасягнуць мэты, каб паказаць сябе, уцягваюцца ў кепскія справы, нічога не робяць". Гэта адбываецца таму, што: "слабая воля, адсутнасць прынцыпаў і сумлення, дрэнныя ўзаеміны, пад "кайфам" усё забываюць, лянота, нежаданне вучыцца, дрэнная кампанія, ад дрэннага жыцця" і г.д.

Патрабуюць сур'ёзных разваг даныя, атрыманыя намі ў адказах на пытанне аб паказчыках развіцця асобы, якія мы звязалі з тэрмінам "аддаваць — атрымліваць". Як высветлілася, 61,5 працэнта рэспандэнтаў лічаць: тое, што чалавек аддае, характарызуе яго як асобу, гэта значыць паказчык "аддаваць". У гэтую групу (а іх да 40 працэнтаў) увайшлі і тыя, хто лічыць, што і аддаваць, і атрымліваць ад грамадства — гэта і ёсць паказчык асобаснага развіцця. 38,5 працэнта маладых людзей лічаць, што менавіта тое, што бярэ чалавек ад іншых, гэта значыць прысвойвае, авалодвае ім, і сведчыць пра ўзровень развіцця яго як асобы.

Як відаць, баланс "браць" і "даваць" адсутнічае ў большасці, значная частка маладых людзей настроена на атрыманне ад іншых, грамадства. Гэты факт, безумоўна, патрабуе канкрэтызацыі, але і першыя вынікі ўяўляюць цікавасць. Гэта праявілася ў працэсе абмеркавання атрыманых вынікаў анкетавання ў педагагічным асяроддзі, і ўзнікла рашэнне распрацаваць тэматыку гадзін узаемін. У прыватнасці, было прапанавана пытанні анкеты зрабіць тэмамі дэбатаў, дыскусій. Да іх мы дадалі такія тэмы, як: "Калі вы хочаце ўдасканаліць свет, удасканальце перш за ўсё сябе" (М.Рэрых); "Самасвядомасць асобы — гэта погляд на сябе. Які я?"; "Быць асобай — быць суб'ектам уласнага жыцця" (А.Пятроўскі); "Каб пазнаць сябе, трэба выйсці "вонкі"; "Моцная асоба. Гэта якая?"

Класным кіраўнікам былі названы выданні, да якіх можна звярнуцца пры падрыхтоўцы да гутарак з падлеткамі і старшакласнікамі.

Мы не меркавалі, што вынікі анкеты стануць фактарам, які падахвоціць да новай і рознапланавай работы па аказанні дапамогі маладым людзям у развіцці сваёй асобы. Нарадзілася ідэя стварэння праграмы "Асоба", з'явіліся новыя планы і ў рабоце з бацькамі: без іх дзейнасць не будзе эфектыўнай, паколькі ўплыў сям'і і бацькоў на развіццё асобы і самавыхаванне надзвычай вялікі.

Дэмакратызацыя грамадства немагчыма без развіцця самабытнай, творчай асобы. Але гэты працэс не спантанны, ён мае пэўныя мэты. І ім можна кіраваць.

**Валянціна БАГАСЛОЎСКАЯ, псіхолаг.**

